№ 75 Ausgabe B.

# ГОМАН

Цэна с перэсылкай і дастаукай да хаты:

на 1 год—4 м. 80 фэн., на $\frac{1}{2}$ году—2 м. 40 ф., на 3 месяцы—1 м. 20 ф., на 1 мес.—40 фэн.

Беларуская Віленская часопісь

выходзіць два разы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.

Адрэс рэдакціі: Вільня, Завальная 7.
Адрэс адміністрацыі і экспэдыціі: М. Стэфанская 23.

Цэна абвестак:

на 4-ай старане за радок дробнымі літэрамі — 25 фэніг.; дробные абвесткі — па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці — 60 фэн. за лінейку дробн. друкам.

№ 75 (167). Год II. Вільня, 18 верасьня 1917 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.).

# Меньшэвікі проці большэвікоў.

# Дыктатура Керэнскаго.

## 17 верасьня.

**Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго:* У Фляндрыі, на ўзбярэжжы мора і на паадзінокіх адрэзках між Гутгольцт і Ліс артылерыйская бітва момэнтамі даходзіла да востраго барабаннаго агня. У мейсцовых стычках мы ўзялі палонных. На паўночным усходзі ад Арра сільные атрады англічан, дайшоўшые ў начы ў некалькіх пунктах да нашых ліній, шыбкай контраталай былі адкінуты.

*Фронт нямецкаго Насьледніка:* На Эн, на паўночным усходзі ад Суассону, ў Шампані і пад Вэрдэнам артылерыйская бітва дайшла вялікай сілы. У некалькіх стычках узяты ў палон французы.

---

Варожые эскадры двойчы атакавалі Кольмар. Яны утрацілі два самалёты. Апрыч таго, ворагі утрацілі 16 самалётаў.

**Усходні тэатр:**

Без перамен.

---

ПЕЦЯРБУРГ. 16. IX. **Тымчасовы урад аб'явіў у Расеі рэспубліку.**

ЛОНДОН. (Рэўтэр). Расейскі тымчасовы урад атрымаў вестку аб **арэшце Корнілова** і яго глаўнейшых супольнікоў.

ПЕЦЯРБУРГ. (П. Т. А.). 16. IX. У апошнюю ноч на заседаньні рады раб. і салд. 279 галасамі проці 115 прыната рэзолюція, ў каторай, між іншым, сказано:

„Учасьце буржуазіі і кадэтоў у бунце Корнілова не вызывае ніякаго сумлеваньня. У будучым трэба зусім пазбавіць іх уласьці і адрачыся ад палітыкі безадказнай коаліціі, каторая абертае урадовую ўласць у мейсцо, дзе узнімающца контррэволюцыйные змовы. Выхад с сучаснаго палажэньня магчымы толькі пры пераходзі ўсей уласьці ў рукі рэволюцыйнаго пролетарыату і селянства, каторые павінны кіравацца гэткімі аснаўнымі думкамі: 1) апавешчэньне дэмократычнай рэспублікі; 2) аддача ўсіх зямель, нічога не выключаючы, селянскім камісіям да сазыву устаноўчаго сэйму; 3) пераход да гасударства ўсіх важнейшых галін прамысленасьці: дабываньня газы, мэталюргічнай, капальняў вугальля; паступовы падатак на вялікіе капіталы і меньне; конфіскація ўсіх даходаў ад вайны; 4) **зніштажэньне ўсіх тайных умоў і прэдлажэньне той-час агульнаго дэмократычнаго міра**; 5) скасаваньне ўсяго, што уціскае работніцкую клясу; скасаваньне кары сьмерці на фронці; паварот поўнай свабоды палітычнай пропаганды; апавешчэньне права нацыональнаго самаапрэдзяленьня; роспуск думы і дзержаўнай рады; сазыў устаноўчаго сэйму без ніякаго адкладу; поўнае роўнапраўство ўсіх грамадзян перад законам“.

ПЕЦЯРБУРГ. 16. IX. Рэзолюція большэвікоў, прынятая ўчора радай раб. і салд. 279 галасамі проці 115 галасоў, прайшла толькі с прычыны нябытнасьці большай часьці членаў рады. На новым, гэтым разам поўным заседаньні рада адкінула рэзолюцію большэвікоў і прыняла рэзолюцію меньшэвікоў, у каторай, між іншым, гаворыцца:

„Рэволюцыйная ўласць павінна быць вольна ад уселякай угодлівасьці с контр-рэволюцыйнымі буржуазнымі элемэнтамі. З гэтай прычыны рада трэбуе: 1) Магчыма шыбкаго сазыву агульнаго з'езду організованай дэмократыі; да сазыву яго тымчасовы урад заховае сваю ўласць у поўнай еднасьці з дэмократыей, каторая прызываецца паддержываць урад. 2) Дэмократычные кругі насяленьня прызывающца спакойна ждаць сазыву дэмократычнаго з'езду і устрымлівацца ад самавольства“.

Маршалак рады, Чхэідзэ, заявіў, што дэмократычная конфэрэнція адбудзецца ў Пецярбурзі не пазьней 15 сьнежня.

ПЕЦЯРБУРГ. (Рэўтэр). **Новы габінэт складаецца з гэткіх пяці міністроў:** Керэнскій, ваенны міністэр — Верховскій, марскі — Вердерэвскій, загранічных спраў — Тэрэшчэнко, почт і тэлеграфоў — Нікітін.

ПЕЦЯРБУРГ. (П.Т.А.). Тымчасовы урад апублікаваў заяву, ў каторай фінляндзкаму сэнату даецца право аканчацельна ўладзіць рад спраў, каторые раней меў право развязываць вялікі князь (цар). Пецярбурскаму ураду прыналежыць право сазыву і роспуску сэйму, паміласаваньня засуджэных, назначэньня генэрал-губэрнатара і некаторые іншые.

ПЕЦЯРБУРГ. (Рэўтэр). Матросы на броненосцы „Петрапавловск“ у Гэльсінгфорсі расстрэлялі 4 афіцэроў, каторые адмовіліся падчыніцца мейсцоваму дэмократычнаму сходу і прысягнуць тымчасоваму ураду. Рэволюцыйны камітэт у Гэльсінгфорсі і марскі міністэр у асобнай адозві сурова судзяць гэты гвалт.

ГЭЛЬСІНГФОРС. Служачые на местовай концы аб'явілі забастоўку на экономічным грунці.

ПЕЦЯРБУРГ. (П.Т.А). Міністэр унутрэных спраў апавешчае, што ад 21 верасьня прыезд у Пецярбург дапускаецца толькі на моцы спэцыальнаго пазваленьня.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). Палонны англіцкі афіцэр выкрыў плян англікаго ўраду на другую вясну прарвацца ў Бэлгію цераз Голандзію. Унутрэнае палажэньне Англіі ад нямецкай падводнай вайны прымушае пайсьці на гэту дарогу с прычыны немагчымасьці далей ваеваць пры нездавольстве работнікоў.

БЭРЛІН. (В. Т. Б.). У Атлянтыцкім акіані, Біскайскай затоцы і Паўночным моры нашы падводные лодкі ізноў затапілі 4 параходы і 1 парусьнік 23.000 тонн.

ВАШЫНГТОН (Рэўтэр). Сэнат усемі галасамі прыняў ваенны крэдыт на $11\frac{1}{2}$ мільярдоў доляроў.

ПЕЦЯРБУРГ (П.Т.А.). Тымчасовы урад апублікаваў гэткую заяву:

„Бунт генэрала Корнілова затушэн. Але разруха ў арміі і па ўсей старане—ешчэ вялікая. Трэба устанавіць палітычную форму упраўленьня дзержавай. Бачучы агульны аднадушны і гарачы спогад ідэі рэспублікі, выяўлены гэтак ярка на маскоўскім конгрэссі, **тымчасовы ўрад аб'яўляе Расею за распублікансквую дзержаву.** Тымчасовы ўрад аддае ўсю сваю ўласць пяці міністрам, каб завясьці нанова лад у старане і вярнуць баевую здольнасць арміі. Тымчасовы ўрад верыць, што ўжо ў найбліжэйшым будучым яму ўдасцца ўцягнуць у сваю раду прэдстаўнікоў усіх элемэнтоў, каторые інтэрэсы бацькаўшчыны стаўляюць вышэй за свае ўласные“.

*Вільня, 18 верасьня.*

Пакуль канец вайны, катораго дагэтуль нельга даглядзець, прынясе нам аканчацельную развязку пытаньня аб будучыне нашаго краю, мы павінны ладзіць нашэ дачэснае жыцьцё так, каб інтэрэсы і патрэбы беларускаго народу былі здаволены як можна паўней,—паскольку гэта магчымо пры цяперашніх ненормальных варунках. Вось, гэта і павінно легчы у аснову тэй новай організаціі упраўленьня занятымі немцамі землямі Обэр Ост, каторая мае быць праведзена на грунце самаупраўленьня згодне с пастановай глаўнай камісіі Рэйхстагу.

Дагэтуль окупованые землі былі раздзелены на тры Verwaltung'і: Беласток—Гродня, Літаўэн і Курлянд. Калі Verwaltung Kurland абнімае чыста латышскі абшар, а Беласток-Гродня—Беларускі, дык Verwaltung Litauen становіць нацыональную мешаніну: апрыч палякоў і жыдоў, каторые жывуць так-жэ і па ўсім нашым краю, сюды ўходзіць блізка ўся этнографічная Літва і частка зямлі Беларускай. Гэтак у межах нямецкай окупацыі беларусы аказаліся раздзеленымі на дзьве няроўные часьці, і пад той час, як большая часць выдзелева ў Verwaltung Беласток-Гродня, меншая — у межах Verwaltung Litauen. А тым часам і ў Беласточчыне, і ў Гродзеншчыне, і ў Сувальшчыне, і ў Віленшчыне інтэрэсы і патрэбы беларускаго народу — зусім тые самые, і, каб іх правільна здаволіваць, беларусы не павінны быць раздзелены, а злучэны разам. Толькі тады можна будзе правясьці аднародную адміністрацыйную сыстэму на этнографічна-беларускай зямлі, што асабліва важна у справе школьнай, у справе падгатоўкі вучыцелёў для беларускіх школ, урэшці — у справе спадзеванаго народнаго прэдстаўніцтва. Толькі тады гэтые паўтара мільёна беларусоў, каторые аддзелены ад рэшты Беларусі ваенным фронтам, пачуюць сваю еднасць і, ў поўнай сьвядомасьці свaей моцы і свайго права, здалеюць шыбка пайсьці па дарозі да поўнаго культурна-нацыональнаго адраджэньня.

Беларусы разумеюць, што пры ладжэньні новаго упраўленьня землямі Обэр Ост павінна быць звернена увага ня толькі на тое, што дзеліць іх на часьці (нацыональны раздзел), але і на тое, што іх злучае. А злучае іх перш за ўсё еднасць краёвай гаспадаркі, еднасць таргова-прамышленай організацыі, — наагул, еднасць экономічнаго жыцьця, вытворэная прыроднымі, географічнымі варункамі і ўсей мінуўшчынай нашай Бацькаўшчыны. Урэшці, белару-

соў і літвіноў злучае супольнае сэрцэ краю: Вільня, каторая была сталіцай Беларусі і Літвы ня толькі ў часах незалежнасьці Вялікаго Князьства Літоўскаго, але і праз увесь доўгі пэрыод паднявольнаго жыцьця — ажно па сягоньняшні дзень, — Вільня, дзе развіваліся першые беларускіе і літоўскіе нацыональные організаціі, дзе яны найбольш энэргічна працуюць і цяпер, дзе беларусы і літвіны здаўна напружаюць свае сілы у змаганьні с супольнымі ворагамі абодвых народаў. І беларускае грамадзянство развязку пытаньня аб новай організаціі Краю на час вайны бачыць у правядзеньні **адміністрацыйнай еднасьці ўсіх зямель Обэр Ост'а**—с тым, каб дзеля правільнаго здаволіваньня культурна-нацыональных патрэб усяго рознаплямённаго насяленьня гэткая **«Літва» ў межах окупаціі была пабіта на тры нацыональные округі — беларускі, літоўскі і латышскі паводлуг матчынай мовы жыхароў.** Толькі на гэткім грунці можна пагадзіць інтэрэсы Краю, як экономічна-гаспадарчаго комплексу, з інтэрэсамі кожнай пражываючай у яго межах нацыональнасьці.

Пішучы гэтые словы, каторые знаходзяць гарачы вотклік у перэважываючый большасьці нашаго грамадзянства, мы маем надзею, што голас беларусоў будзе ацэнен, як мае быць, у імя апавешчэнаго окупацыйнымі ўласьцямі прынцыпа роўнапраўства ўсіх нацыональнасьцей краю.

## Банкруцтво Корнілова.

Тэлеграма П.Т.А. с 13.IX апавешчае, што узняўшаяся контр-рэволюція ў Расеі пад кіраўніцтвам Корнілова неўдалася. Керэнскій, каторы прыняў на сябе глаўную каманду, у прыказе па арміі і флоці між іншым пішэ:

«Бязмысльная спроба бунту, ўчыненая быўшым глаўнакамандуючым і жменяй генэралоў, зусім неўдалася. Вінавайцы аддазены пад рэволюцыйны суд. Армія і флот, усе генералы, адміралы, афіцэры, салдаты і матросы, каторые стаяць супроць страшэннаго ворага, асталіся вернымі сваім павіннасьцям перад бацькаўшчынай і законным урадам».

У іншай тэлеграмі с Пецярбурга, пярэданай Рэўтэрам, чытаем, што, паводлуг заявы міністра працы, «скандальнае предпрыемство Корнілова збанкроцілося, і яго глаўная кватэра паддалася».

Урэшці, «Ізвестія» с 13.IX пішуць, што Корнілов згодзіўся явіцца на рэволюцыйны суд, каторы мае судзіць яго за організацію бунту.

Падаючы тут гэтые весткі, мы павінны адзначыць, што ўсе яны дайшлі з Расеі пад цэнзурай тымчасоваго ураду і мо' рысуюць палажэньне ў больш рожэвых колерах, чым яно ёсць. Гэтак, побач з імі дайшла вестка аб новым бунце, каторы падняў казацкі гэтман Каледін у Ростове над Донам, загадаўшы арэштаваць тамтэйшую раду раб. і салд., с чаго відаць, што неўдачай Корнілова контр-рэволюцыйны рух не закончэн. Ясна толькі адно: што прэдпрыемство Корнілова папраўдзі збанкроцілося, а тымчасовы ўрад дайшоў знаменітай пабеды. Але становучай заяве Керэнскаго аб «развязцы рэволюціі без праліцьця крыві» тымчасам поўнай веры даць нельга.

Само сабой разумеецца, што далейшы ход прыпадкоў у Расеі будзе залежаць ад укладу агульна-палітычных варункоў. Чым даўжэй трывае вайна, чым цяжэй перэнасіць яе народным массам, тым больш узмацовываецца грунт дзела новых контр-рэволюцыйных выступленьнёў. Монархісты стараюцца выкарыстаць прыбітае настраеньне народу с прычыны вайны і яе ціжароў, пускаючы між людзьмі думку, бытцым цар, варнуўшыся на трон, дасць «хлеба і мір». І кожын дзень вайны дае толькі шырэйшае поле для падобнай агітаціі за монархізм. Гэта тымчасовы ўрад павінен зразумець. Выступленьне Корнілова, хоць і неўдаўшаеся, гэта грознае «memento!» (помні!), каторае павінно паказаць рэволюцыйнай Расеі, што іграць на «пабеднай вайне»—нельга. Рэволюцыйная дэмократія павінна цясьней згуртаваць свае сілы, павінна зразумець, што яе саюзьнікі, заступаўшыеся за Корнілова і монархістычные планы яго, думаюць не аб карысьці Расеі, а аб сваей асабістай, што, ўрэшці, паддзержка, аказаная імі паўгода таму назад справе рэволюціі, тлумачыцца тым, што Англія баялася, каб цар Мікалай не прыстаў на сэпаратны мір з Нямеччынай. Мы маем надзею, што пазыція, занятая Англіей і Франціей у момэнт выступленьня Корнілова, расчыніць вочы ўсей рэволюцыйнай Расеі, і яна цьвёрда зажадае ад сваіх саюзьнікоў чым-хутчэйшага замірэньня.

*І. М.*

## Цэннае адкрыцьце.

Уся беларуская літэратурная спадчына з мінуўшых вякоў, асабліва с таго часу, калі Беларусь жыла незалежным жыцьцём у складзе Вялікаго Князьства Літоўскаго і калі беларуская мова была урадовай мовай беларуска-літоўскай дзержавы, дайшла да нас у друкаваных кнігах і рукапісах, напісаная «кірыліцай», значыць, тымі літэрамі, каторымі былі пісаны ўсе стараславянскіе памятнікі пісьменства і каторые ляглі у аснову правапісма беларусоў, украінцоў і вялікорусоў, атрымаўшыназваньне «рускаго» пісьма. З гэтай прычыны на нашым спосабі запісываць беларускіе зыкі «кірыліцай» бачым сільны сьлед стара-славяншчыны: замест запісываць словы так, як беларусы іх папраўдзі вымаўлялі, даўные беларускіе пісьменнікі пісалі іх паводлуг правіл царкоўна-славянскай граматыкі. Як вядома, беларускае о і е, калі з яго зыйшло ударэньне на суседні склад, мае тэндэнцію «акаць»: мы кажэм «стóл» і «сталá», «зéлень» і «зялёны» і т. д. Царкоўна-славянскае правапісмо гэтай асобеннасьці беларускай мовы не прызнавало і пісало о і е пры ўсіх адменах слова і ўдарэньня. Гэтак сама беларусы перэнялі ад царкоўна-славяншчыны спосаб запісываць **ць** (ц мягкое) літэрай ть і замест дз пісалі проста **д**, бо ў стара-славянскай мові зык **дз** не спатыкаецца.

На гэтым грунці узнялася зусім неправільная думка, бытцым у XIV, XV, XVI, XVII і XVIII сталецьцях беларускі язык паводлуг сваей вымовы нічым ня розніўся ад царкоўна-славянскаго. Дарма такіе сур'ёзные расейскіе вучоные, як Карскій, Шахматов і іншые, даводзілі, што думка гэта —плод недаразуменьня, бо сьляды „аканьня“ і ужываньня **дз** і **ць** замест мягкаго **д** і мягкаго **т** выяўляюцца болей або меней выразна ўжо ў найстарэйшых памятніках беларускаго пісьменства: прэдстаўнікі «абрусіцельнаго» кірунку, паставіўшые сабе задачу давясьці, бытцым ніякаго беларускаго народу, адменнаго ад вялікарусаў, ніколі не было і німа, на гэтым недаразуменьні апіралі ўсе доказы свае проці правоў беларусоў на самабытнае культурнае развіцьце. А сьледам за імі ідуць і па сягоньняшні дзень ворагі беларусоў іншых нацыональнасьцей, даводзячы у псэўдо-навуковых трактатах, бытцым у Вялікім Князьстве Літоўскім урадовай мовай была не беларуская, а... царкоўна-славянская мова!

Само сабой разумеецца, што для кожнаго, хто знае старую царкоўна-славянскую мову і хто чытаў старые акты, пісаные ў Беларусі, або хаця-бы «Літоўскі Статут», ясна, што як складня, так і ўсе словы ў іх—чыста беларускіе. Каб-жэ скончыць з недаразуменьнем аб вымове **дз** і **ць** і аб «аканьню», мы пазнаёмім нашых чытачоў з найнавейшым адкрыцьцем у беларускай філёлёгіі: да нас дайшоў памятнік пісанай беларускай мовы, напісаны не «кірыліцай», а больш багатымі у знакі арабскімі літэрамі, і тут зусім ясна выступае тое, чаго не выражаюць памятнікі, пісаные «кірыліцай».

Адкрыцьце гэтае зрабіў вядомы беларускі працаўнік на ніве гісторыі і архэолёгіі нашаго краю, п. Іван Луцкевіч. Яму ўдалося раздабыць у Сорак Татарах, пад Вільняй, ад мейсцоваго муллы татарскую сьвятую кнігу „Ай Кітаб“ (чы „Кіцёб“), ў каторай духоўные сьпевы і малітвы запісаны арабскімі літэрамі, але па беларуску— с прычыны таго, што татары ў нашым краю, жывучы тут ад XV сталецьця, зусім забыліся роднай мовы і гавораць між сабой перэважна па беларуску. Кніга гэта — пісаная і сягае XVII сталецьця. Пры помачы маладога нямецкаго філёлёга-орыэнталіста, п. Банэта, каторага вайна закінула ў Вільню, кнігу гэту ўдалося расчытаць, і з яе зроблены выпісы, каторые зусім ясна паказалі:

1) ужыванае ў „кірыліцы“ **т** мягкое (ть) чытаецца, як **ць**: „шэсць“, „знаці і ведаці“, „ад цебе нам усім прычына мае быць“ і т. д. Паводлуг заявы п. Банэта, тут сумлевацца зусім нельга, бо па арабску знак **ц** крыху падобны да **с**, але рэзка розніцца ад **т**.

2) царкоўна-славянскае **д** мягкое запісываецца асобным знакам, каторы рэзка розніцца ад арабскаго **д** цьвёрдаго і можэ чытацца, як **дз**: „людзі“, „месяц і слонца узыдзе і зайдзэ“, „дзеяла“, „сьветласьці невідзелі“, „праўдзівый пан“ і т. д.

3) там, дзе ў „кірыліцы“ замест **ў** стаіць **в**, у арабскай запісі часта спатыкаем **у**: „уся“, „учуеш“, „узыдзе“, часам „ішоу“, але ў канчары, наагул, часьцей удзержываецца **в**.

4) „аканьне“ выступае зусім выразна: „тая абетніца, што абецав“, „дойдзеш гэтай ночы да тае абетніцэ“, „абачыш Пана Бога“, „прыаздобіць“, „астатній“, „нічога“, „за расказанем“, тое слова“, „прарок“, „над прарокам“, „сабакі“, „месяц і слонца“ і т. д.

# І. Мітычные і абрадавые песьні.

(Гл. «Гоман» № 74).

### 4) Юр'еуская.

А Юр'ева маці,
Божэ мілы (пасьля кожнай [строфкі).
Па небе хадзіла,
З Юр'ем гаварыла:
„А Юр'ю, мой Юр'ю,
„Падай Пятру ключы,
„Зямлю адмыкаці,
„Траву выпускаці;
„Траву выпускаці,
„Статак накармляці;
„Людзям на здароў'е
„Зіме безгалоў'е“.
А нашаму пану
На добру памыснасць.

### 5) Кустовые.

I.

На Гранай нядзелі русалкі сядзелі,
Рана, рана, русалкі сядзелі *(прыпеу).*
Прасілі русалкі у дзевак сарочак,
У дзевак сарочак, у маладзіц наметак.
„Дзевачкі-сястрычкі, дайце нам сарочкі!
„Хоць яны пласконны, каб былі дадзены,
„Хоць яны таўсьценькі, каб былі бяленькі,
„Рана, рана, каб былі бяленькі“.

II.

Павяду русалку з бору да бору,
Рана, рана з бору да бору *(прыпеу).*
З бору да бору, ў зялёну дуброву;
У зялёну дуброву, ў ядраное жыто.
У ядреным жыце там русалцы жыці,
Рана, рана, там русалцы жыці.

III.

Ды цераз сяло Багданаўскае
Ішло войско ўсё-ж дзявоцкае.
Ішлі людзі ўсё дзівіліся,
Што ў нас кусты ўсё кляновые,
А вяночкі-ж ўсё пэрловые.
Ой, кусты, кусты кляновые,
А вяночкі вярозавы!

### 6) Купальскіе.

I.

А сядзіць Купала на плоце,
У яе галоўка ўся ў злоце.
Ды просіць у Бога пагоды:
„А дай-жэ, Божэ, пагоды
„Ды на тую ночку вясёлу!
„Ды будуць музыкі іграць,
„Ды будуць маладкі сьпеваці,
„Ды будуць дзевачкі гуляці“.

II.

Купальле, Купальле,
Дзе-ж ты зіму зімовало,
Дзе-ж ты лето летавало?
„Зімавало у перэйку,
„А летавало у зелейку“.

III.

Ішло Купальле сялом, сялом —
Купала на Івана! *(прыпеу).*
Закрыўшы вочы пяром, пяром!
Сталі людзі дзівіцися,
Стало Купальле сварыціся:
„Якіе вы, людзі, дзіўные, дзіўные!

Гэта — глаўные вывады с тых адрыўкоў, каторые выпісаў лацінскімі літэрамі п. Банэт. Само сабой разумеецца, што пры далейшых досьледах гэта кніга дасць незвычайна багаты матэр'ял з беларускай фонэтыкі, але і с таго, што яна ўжо дала, мы бачым зусім ясна, што фонэтычные асобеннасьці сучаснай жывой беларускай мовы зусім выразна выступалі ў часі, калі быў пісан „Ай Кітаб“,— значыць, у XVII стал., ды толькі ўплыў царкоўна-славяншчыны на старое беларускае правапісмо зрабіў тое, што „кірыліца“ не выражала гэтых асобеннасьцей. І ня можэ быць ніякай споркі аб тым, што пісаньня „кірыліцай“ беларусы чыталі зусім так сама, як мы чытаем новые беларускіе пісаньня

*А. Н.*

# У Вільні і ваколіцах.

× **Палітычны мітынг.** У нядзелю, 16 верасьня, аддбыўся ў салі Работніцкаго Клюбу вялізарны сход, у каторым прынялі ўчасьце прэдстаўнікі соцыялістычных і дэмократычных кругоў беларускай, літоўскай, польскай і жыдоўскай нацыональнасьцей.

Сабралося больш 1.000 асоб. Ад кожнай нацыональнасьці выступалі ня меньш двох прамоўцаў. Прамаўлялі і двое беларусоў, ды двое ўвашлі у склад прэзыдіум'а] мітынга.

Падробную справаздачу с прычын тэхнічнаго характэру дамо ў чародным нумэры.

× **Літоўскіе сходкі.** У суботу, 9 верасьня, адбыўся літоўскі сход у салі пры Вароньняй вуліцы 5.

Першы прамоўца, д-р Домашэвіч, сказаў, што ў Літве ёсць тры кірункі. Літвіны пераконаны, што іх нацыональные інтэрэсы цягнуць іх на заход, палякі глядзяць на палудзень, жыды — на ўсход. Аб беларусах ён не ўспамінаў. Пасьля прамоўца гаварыў аб рэзолюції, каторая будзе пададзена організацыйным камітэтам ладжэнай літоўскай конфэрэнції. У гэтай рэзолюції гаворыцца, што Літва павінна быць незалежнай дзержавай у звязі з Нямеччынай; пры гэтым Нямеччыне мае быць дадзено права на ваенную конвэнцію, стратэгічные дарогі і т. д. Далей Домашэвіч гаварыў, што, паводлуг лёгікі, літвіном лепей звязацца с пэўным заходам, чым з няпэўным усходам. „Аб гэтым пытаньні трэба будзе ешчэ добра падумаць, але гэта дарога — ядыная“.

«Lietuvos Aidas» пішэ, што гэтымі днямі ў Вільні адбудзецца з'езд літоўскай інтэлігенції з розных мейсц Літвы. На ім будзе гутарка аб цяперашнім палажэньні і будучыне Літвы.

× **Карэспандэнціі для «Гомана» па беларуску.** Усе карэспандэнціі для «Гомана» трэба пасылаць цераз нямецкую ваенную почту (Feldpost), адрэсуючы гэтак:

> Presse-Stelle Ob Ost IV
> für Zeitung «Homan»
> **Wilna.**

Гэтак адрэсуючы, самые карэспандэнціі і літэратурные творы можна пісаць па беларуску.

× **„Выпісы з беларускай літэратуры, аддзел II. Духоўные Песьні“.** Гэты новы спытак выйшоў з друку і прадаецца па 20 фэн. за эгзэмпляр.

× **Віленская жыдоўская драматычная дружына** іграе цяпер у Варшаве ў тамтэйшым жыдоўскім народным тэатры.

× **Юбілейны вечар Рэйзіна.** Жыдоўскі Культурны саюз у дзень 25-летняго юбілею жыдоўскаго пісьменніка Абрама Рэйзіна ладзіць вялікі музыкальна-драматычны вечар.

× **Жыдоўскі саюз працаўнікоў штукарства** просіць ахвяр кнігамі для яго кніжні, Вялікая вул. 35.

× **Прымусовая ачыстка ад вошы.** Stadthauptmann загадаў, каб усе сталаўнікі народных стравень ачышчаліся ад вошы. Хто пасьля назначэнаго тэрміну ня будае мець сьведоцтва аб ачыстцы, таму ня будуць выдаваць стравы.

Дзеля акуратнай ачысткі і дэзынфэкції гаспод, дзе разам жыве многа людзей, жыхароў апошніх па загаду Stadthauptmann'а паводлуг патрэбы будуць перэвадзіць ў карантынны табор на Антокалі, дзе будуць іх ачышчаць ад вошы адначасна з ачысткай і дэзынфэкцієй іх кватэры, куды яны посьле могуць вярнуцца. Усё гэта будзе трываць ад 8 да 10 дзён; у гэтым часі будуць ім выдаваць тамжэ страву па таннай цане, а бедным — дарма.

× **Жыдоўскіе сьвяты.** Сёлета жыды сьвяткуюць свае восенные сьвяты ў гэткіе дні: 17, 18, 26 верасьня і 1, 2, 8, 9 кастрычніка.

× **Канец летняго часу.** У начы с 16 на 17 верасьня а 3 гадзіне ўсе гадзіннікі перэстаўлены на гадзіну назад.

× **Зіма ідзе!** Цёплая пара году ўжо мінула. Ані сіняе небо, каторае ешчэ часамі відаць, ані сонцэ, каторае часам у палудзень грэе, як у летку, не павінны ашукаць нас нашчот прыходу зімы. Халодные ночы і густы туман, каторы на раніцы пакрывае ваколіцы, напамінаюць нам аб ей.

× **Збірайце каштаны:** у іх ёсць шмат гэткаго цэннаго цяпер алею.

× **Конфіскованая карова.** У аднаго с тутэйшых жыхароў сконфіскована бязклубая чорна-белая карова. Валадзелец можэ звярнуцца у крымінальную паліцію, Домініканская 1, пакой 89.

× **Тэмпэратура.** Найвышэйшая і найніжэйшая тэмпэратура за апошніе дні была (па Цэльсію):

| | найвыш. | найніж. |
|---|---|---|
| 12—13 | + 18° | + 10° |
| 13—14 | + 15,5° | + 7° |
| 14—15 | + 14° | + 8° |
| 15—16 | + 15° | + 8° |

# З усяго Краю.

БЕЛАСТОК. На хлебовые карты на поўшаста месяца выдаюць на душу 3 пуды бульбы па 8 фэн. за фунт. Калі-ж бульбу будуць браць па-месячна з местовых крам, дык цэна яе будзе 10 фэн.

У тую сераду ў местовым парку на карысць вучыцельскай страўні было наладжэно дзіцячае гуляньне з ваеннай музыкай.

Ад 1 верасьня ў пяты местовы округ за доктара для бедных замест п. Курыцкай назначэн д-р Мэнкэ.

БЕЛАСТОК. У пазапрошлую нядзелю адбыўся збор на карысць дзяцей. Прытулак для дзяцей імі Пэрэца наладзіў прадажу кветак на вуліцах. Кветкі прадаваліся самімі дзяцьмі. Збор даў значную сумму.

БЕЛАСТОК. У тую сераду, ў палудзень, на Сажалковай вуліцы загарэлася заложэная 50 гадоў таму назад фабрыка сукна «Філіпа насьледнікі». Агонь шыбка шырыўся. Пажарная каманда прымушэна была толькі не даваць агню пашырыцца далей. Уся фабрыка з машынамі згарэла да тла. Арэндар фабрыкі, пачаўшай рабіць толькі 5 дзён таму назад, мае страты каля 200,000 м. Прычына пажару ня выясьнена.

БАЖЭСКІ (?) пад Беластокам. У часі навальніцы, калі пастух укрыўся ад дажджу, тут укралі с пашы аднаго каня, каторага па вялі ў Беласток, ды тут прадалі. Аднак, купцы ўбаяліся сваей куплі і, баючыся паліціі, выгналі каня на вуліцу. Конь доўга гуляў па вуліцах, пакуль яго не спаймала паліція, каторая і аддала каня валадзельцу, прыбегшаму ў Беласток заявіць аб крадзжы.

ГРОДНЯ. Сюды гэтымі днямі прыходзіць вагон цукру.

Гродзенская мінэральная вада «Гроднаэр Спрудэль« ня будзе далей прадавацца с прычыны недастачы коркаў. Гэтак беларуская мінэральная вада пойдзе ў ход толькі пасьля вайны.

Усе трупы паўшай жывёлы трэба аддаваць у местовую бойню. Лупіць з іх скуру за межамі бойні срога забаронено.

Тут выяўляецца вялікая недастача папірос, цыгар і тытуну. «Grodn. Ztg.» радзіць... курыць як наймени! Яна так сама радзіць беражліва ужываць дрэво, торф, вугальле, тлустасць дзеля мазі і газу, бо зімой усяго гэтаго ня будзе.

Коопэрацыйные пекарні служачых у нямецкіх урадах і работнікоў фабрыкі тытуну Шэрэшэвскаго выдаюць хлеб толькі сваім членам; староннім асобам хлеба не прадаюць.

На таварнай станції выкрылі скрыні са скурай, пшоннай мукой і агуркамі, каторые мелі быць вывезены з места контрабандай. Усе гэтые тавары сконфіскованы.

ГРОДНЯ. Камісія дзеля устаноўкі цэн заседае ў старым ратушу ад 5 да 7 гадз. паабедзі і прымае скаргі насяленьня на рынковые цэны. Яна такжэ нагледае над контрабандным вывазам спажыўных прадуктоў, у тым ліку— вывазам нават мукі з местоваго округа.

Паветовы вастрог пры Паліцэйскай вуліцы будзе шмат расшырэн і абернен у акружны вастрог. Будынак старога вастрогу пры Мастовай вуліцы памешчае толькі 33 душы, а два будынкі паветоваго—319. Надалей жэ ў вастрозі будзе мейсцо на 600 арэштантоў, і ён будзе адным з найвялікшых у краю. Пры вастрозі маюць быць заложэны рамесьніцкіе варштаты.

БЕЛЬСК. Праваслаўные жыхары Бельскаго павету доўгі час аставаліся без рэлігійнай помачы, бо расейцы адступаючы вывязьлі с сабой усіх сьвяшчэнікоў. Нямецкіе ўласьці з гэтай прычыны прыслалі сюды з Гродні сьвяшчэніка Ковалёва дзеля выпаўненьня абрадоў і службы Божай. Сьв. Ковалёв прыбыў праз Беласток, урочыста спатыканы праваслаўнымі парахвіянамі, каторые праводзілі яго ў цэркву, дзе чэкала тысячная грамада, ня меўшая у ся-

„Яж бачыла наддзіўней таго:
„А ў балоці на калодзі, на калодзі,
„Там весна красна кросны ткала,
„А рак-небарак цэўкі сучыў,
„Цэўкі сучыў пяньковые
„На кросенцы шаўковые.
„А плотачка скачэ, нітачкі вяжэ“.

### Летніе.

I.

Касцы косяць, Бога просяць:
Дай Божэ пагоданьку
На нашу работаньку сено пакасіці,
Да дому звазіці.

II.

Ой, за лесам-борам кругло-поле,
А там дзеўчатко пшаніцу поле;
Ой, поле, поле перэбірае,
Перабор-зельле за плот кідае.
Кідае, кідае — хай вада нясе,
Дзе мой Сьцепанка волы пасе:
Ой, пасе, пасе горэнькамі,
Дзеўчэ-ж плачэ сьлёзанькамі.

III.

Ой ракой-рэчкай човен плыве,
А ў тым чаўночку белы малойчык.
Кудзерцы чэшэ, перачэсывае:
Плывеце кудры, да маей мілай,
Паслухайце, што міла кажэ,
Ці спамінае, ці праклінае?
— „Ой, мілы мой глуміўся мной:
Сеяў палын на маім сэрцы,
Ды клаў агні на маіх плечах,
Рабіў скрыпкі з маіх ручак,
Увязываў каня да маіх косак,
Пушчаў рэчкі з маіх вочак!“
— „Мілая мая, непраўда твая!
Я сеяў палын у чыстым полі,
Я клаў агні у шчырым бары,
Увязываў каня да белай бярозы,
Я пушчаў рэчкі крынічные
І рабіў скрыпкі з белай ліпкі“.

### Зажынковые.

I.

**Раніцай прыходзячы на ніву.**

„Добры дзень Госпаду Богу,
Жыту ядраному, Гаспадару Палявому!“
— „Здароў, здароў, жнеі маладые,
Сярпы залатые“.

**Вечарам, ідучы з нівы.**

„Добранач Госпаду Богу,
Жыту ядраному, Гаспадару Палявому!“
— „На здароў'е, жнейкі маладые,
Сярпы залатые!
Прыхадзіце заўтра параненька,
Як сонейко ўзойдзе:
Я-ж таго люблю, хто рана прыходзе,
Рана у двор адыходзе.

II.

Поле мае шырокае, жыто мае ядраное!
Не с кім стаці, пастаяці,
Жыто ядраное пажынаці!
Братцы мае па заслужжу,
А сястрыцы па замужжу!

II.

Гаварыло ядраное жыто,
У чыстым полі стоя — гаварыло:
Немагу я ў полі стаяці,
Калосьсям махаці — не магу я!
Толькі магу я, а толькі магу я
У полі капамі ў гумне стагамі —
толькі магу я!

